

# Беларус

**50-ГОДЗЬДЗЕ!**

***«Другі Ўсебеларускі Кангрэс... пастанавіў: Вызнаць правільнай і зноў пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі... 25 сакавіка 1918 г.»***

*Менск, 27 чэрвеня 1944 г.*

**№ 419 Сьнежань 1994**
Год выд. 43

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $2.50




## ЗАЯВА ДЭПУТАТАЎ АПАЗЫЦЫІ БНФ У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ

Мінула 110 дзён ад дня заступленьня А. Лукашэнкі на пасаду прэзыдэнта Беларусі і чатыры месяцы пасьля яго абраньня. Гэта дастаткова час, каб закласьці асновы, падмурак рэформаў, прыпыніць разбуральныя працэсы ў эканоміцы й палітыцы і пачаць стваральную працу па будаўніцтву і ўзмацаваньню дзяржавы. Аднак гэтага не адбылося. Калі зараз задаць пытаньне, што-ж палепшылася ў нашым жыцьці за чатыры месяцы, дык відавочна, што не палепшылася нічога. Наадварот, пагоршылася.

Дзе барацьба з карупцыяй? Каго судзілі, пасадзілі, вывелі на чыстую ваду, пакаралі за карупцыю? Нікога. Засталося ўсё старое кіраўніцтва, тыя-ж людзі ва ўрадзе і ва ўсіх структурах улады...

Дзе абяцанае зьніжэньне цэнаў?

Дзе абяцанае спыненьне інфляцыі?

Дзе абяцаны запуск вытворчасьці, заводаў, разгрузка затавараных складаў прадпрыемстваў і г.д.?

Нічога гэтага няма і быць не магло, бо спадар Лукашэнка і кан'юнктуршчыкі, якія яго падтрымліваюць, ня ведаюць, як выканаць свае папулісцкія абяцанкі, не разумеюць, як вывесьці эканоміку з крызісу і ня ймкнуцца праводзіць дзяржаўную палітыку, заснаваную на нацыянальных інтарэсах.

Ад 10-га ліпеня да канца верасьня сёлета кошт мінімальнага харчовага кошыка жыхара Беларусі павялічыўся ў тры разы, мінімальная заплата ў доляравым эквіваленьце паменшылася больш чым удвая, хуткасьць росту цэнаў на асноўныя спажывецкія тавары перагнала рост заработнае платы ў 14 разоў (такога яшчэ ніколі ня было), інфляцыя перавышае ўжо 60 працэнтаў у месяц. Непрафэсійныя аднабокія дзеяньні па павышэньню цэнаў на гарэлку і асноўныя прадукты харчаваньня яшчэ больш раскруцілі інфляцыю. Павярхоўны, няўважлівы падыход да дэнамінацыі разьліковага рубля прывёў да рэальнага павышэньня цэнаў на большасьць тавараў і да зьніжэньня сумы грашовых укладаў насельніцтва ў ашчадных банках... Шматмільярдная крэдытная эмісія, прынятая нядаўна Вярхоўным Саветам, да канца 1994-га году яшчэ больш павялічыць інфляцыю і рост цэнаў на асноўныя прадукты харчаваньня і паслугі.

У дзеяньнях прэзыдэнта вызначыліся тэндэнцыі да аўтарытарызму. Людзі пазбаўленыя магчымасьці выбіраць кіраўнікоў выканаўчай улады, а ў вёсках — мецца свае прадстаўнічыя органы. Імкненьне стварыць адзіную неабмежаваную бюракратычную вэртыкаль прэзыдэнцкай улады прывядзе да яшчэ большага росквіту карупцыі.

Сумбурныя дзеяньні і выказваньні кіраўніка краіны і яго адміністрацыі, вядуць у глухі тупік беларускую эканоміку і ўсё грамадзтва, штурхаюць людзей да жабрацтва, што стварае рэальную пагрозу існаваньню нашай дзяржавы і нацыянальнае уласнасьці...

Мы, Дэпутаты Вярхоўнага Савету, што ўваходзяць у апазыцыю Беларускага Народнага Фронту лічым сваім абавязкам папярэдзіць пра гэта нашае грамадзтва і заклікаем разам шукаць выхад з пагрозьлівага становішча...

**Дэпутаты Вярхоўнага Савету**
**(30 подпісаў)**
**(Вытрымкі з «Народнай Газеты», ад 15 лістапада 1994)**

## ПРОСЬБА ДА СУРОДЗІЧАЎ

Каса Рады БНР у папярэдніх гадох заўсёды праводзіла збор дабраахвотных ахвяраваньняў на «ДАР САКАВІКА» у сакавіку месяцы.

У 1995-м годзе збор будзе праводзіцца ў месяцах студзені й лютым на «ДАР БЕЛАРУСІ». Па заканчэньні збору, усе ахвяраваньні будуць пераказаныя на нацыянальныя патрэбы ў Беларусі.

Лічым гэтую справу вельмі важнай, і заклікаем быць шчодрымі у вашых ахвяраваньнях, якія просім перасылаць на адрас скарбніка:

Vitaly Kazan
183 Lawn Avenue
Stamford, CT 06902



## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

***«Божая любоў да нас у тым выявілася, што Бог паслаў на сьвет адзінароднага Сына Свайго, каб мы жылі праз Яго»***
***(І Яна 4:9)***

**Любасныя ў Госпаду пастыры, шаноўнае манаства і ўсе багалюбныя вернікі сьвятой Беларусі!**

**ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ**

Сёньня духоўна сьвяткуе ўся Сьвятая Праваслаўная Царква, праслаўляючы нараджаньне Госпада Бога нашага Ісуса Хрыста, Які дзеля нас, людзей, і дзеля нашага ратунку зыйшоў зь неба і прыняў цела ад Духа й Дзевы Марыі, і стаўся Чалавекам».

Сьвяткуючы гэтую вялікую, цудоўную й нявымоўную таямніцу выратаваньня роду людзкога, мы вачыма веры нашай бачым Ісуса Хрыста ў Бэтлеемскіх яслях і разам з пастушкамі пакланяемся народжанму Дзіцятку. Мы цешымся зь Ягонага прыходу на зямлю, праслаўляем Яго і прыносім Яму ў ахвяру нашу веру й любоў.

Усіх Вас, дарагія мае браты й сёстры, па ўсім сьвеце раскіданых, сардэчна вітаю зь вялікім сьвятам Нараджэньня Хрыстовага й жадаю ўсім лепшага жыцьця ў надыходзячым Новым Годзе. Зычу ўсім увайсьці ў Новы Год дабрыні Божай азоранымі водблескам каляднага сьвятла. Хрыстос прыйшоў у гэты сьвет, які глыбака «ў зьле ляжыць», каб выратаваць яго і каб зьяднаць людзей, перш за ўсё з Богам, ды аб'явіць нам новыя наказы Дабравесьця. Любоў да свайго бліжняга — адзін з Хрыстовых наказаў, і ён нам сёньня асабліва патрэбны.

Сёньня ў Беларусі працягваецца рух да духовага адраджэньня беларускага народу. Але, як бачым, на гэтым шляху ставяць нашаму народу вялізэзныя перашкоды. Перашкоды гэтыя трэба перамагаць любоўю.

Дарагое й любаснае сьвятарства, няхай ня будзе абыякава Вам, як духоўным правадырам парафій, стан нашай мовы ў сьвятынях Божых. Адважцеся на самаахвярныя ўчынкі, каб зьняць нашу мову з крыжа пакутаў. Няхай растуць рады змагароў сярод Вас. Гэта наш сьвятарскі абавязак ахоўваць і бараніць наш дар Божы, родную мову. Сто гадоў таму Францішак Багушэвіч заклікаў нас: «Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!»

Дарагія суродзічы! Дабрароднае зерне пасеянае ўжо, яно ўпала на ўрадлівую глебу і дае парасткі. Нягледзячы на тое, што чужыя зьверхнікі ўзяліся вырываць іх, парасткі будуць прарастаць надалей, бо гэта — Божая воля, каб народ маліўся на сваёй роднай мове. Бог разумее і нашу сьвятую беларускую мову. Той, хто супраць роднай мовы ў царкве, ён грашыць супраць Сьвятога Духа. Бо як ён можа тлумачыць цуд учынены Сьвятым Духам, што ўсе народы чулі сьв. апосталаў, якія гаварылі да іх іхнай роднай мовай. Гэта-ж у Евангельлі напісана: «Як-жа настаў гук, зышлася множасьць, і былі зумеўшыся, бо кожны чуў, што яны гавораць да іх іхнай мовай» (Дзеі 2:6). Мова — гэта дар Божы народам, і кожны народ мае Божае права маліцца, думаць і гутарыць на роднай мове. А наша беларуская мова сьвятая нам, бо дарованая Богам.

Падумайма аб гэтым, дарагія мае, у Дзень Раства Хрыстова, у Дзень прыйсьця Таго, Хто стаўся ўвасабленьнем бязьмежнай любові да чалавека. Любем адзін аднаго, любем народ і край свой, і любоў нас выратуе. «Бо, — як сказана ў Дабравесьці, — нарадзіўся нам сёньня ў месьце Давідавым Ратаўнік, Які ёсьць Хрыстос Госпад» (Лк 2:11)

*Хрыстос нараджаецца – Яго слаўце!*
*Нараджэньне Хрыстовае*
*Божага году 1994*
*Таронта Канада*

**Архіяпіскап Мікалай**
**Мітрапаліт БАПЦ**



**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА НАРАБІЎ ШМАТ ШУМУ ЗЬ НІЧОГА

Адзінаццатага лістапада, вярнуўшыся ў Менск пасля двухтыднёвага лячэньня ў Сочы, прэзыдэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка наладзіў прылюдны адлуп сваім падначаленым. Прычынай для незадаволенасьці кіраўніка дзяржавы сталася павышэньне цэнаў на прадукты харчаваньня й тавары штодзённага попыту ў два-тры разы. У гэтым прэзыдэнт убачыў асабістую абразу, і наогул спробу дэскрыдытаваць яго як народнага заступніка. Таму ў сваім тэлевыступленьні, якое Лукашэнка пачаў адразу пасьля вяртаньня ў Менск, прэзыдэнт не хаваў свайго гневу і з уласьцівай яму эмацыянальнасьцю «граміў» усіх, хто дапусьціў павышэньне цэнаў. Аляксандр Лукашэнка ў канцы свайго выступленьня сказаў і гэткае: віноўныя павышэньня цэнаў будуць зьнятыя з пасадаў і арыштаваныя. Але сваю пагрозу прэзыдэнт не выканаў. На другі дзень адбылося пасяджэньне Кабінета Міністраў і прэзыдэнцкай адміністрацыі. Там таксама гучэла шмат пагрозаў на адрас нейкіх таямнічых сілаў, якія перашкаджаюць прэзыдэнту ажыцьцяўляць рэформы. «На самой жа справе ў тым, што здарылася А. Лукашэнку і яго камандзе найперш трэба вінаваціць саміх сябе. Бо фактычна за чатыры месяцы знаходжаньня пры ўладзе, прэзыдэнт і яго супрацоўнікі не здолелі ні на крок рэфармаваць хворую эканоміку рэспублікі. Наадварот, жыць на Беларусі стала горш. Зь 10 ліпеня 1994 году да канца верасьня кошт мінімальнага харчовага кошыка жыхара Беларусі павялічыўся ў тры разы, мінімальная зарплата ў доларавым эквіваленьце паменшылася больш чым удвая, хуткасьць росту цэнаў на асноўныя спажывецкія тавары перагнала рост заработнай платы ў 14 разоў (такога яшчэ не было), інфляцыя перавышае ўжо 50 працэнтаў у месяц. Непрафэсійныя аднабокія дзеяньні па павышэньню цэнаў на гарэлку і асноўныя прадукты харчаваньня яшчэ больш раскруцілі інфляцыю. Павярхоўны падыход да дэнамінацыі беларускага рубля прывёў да рэальнага павышэньня цэнаў на большасьць тавараў і да зьніжэньня сумы грашовых укладаў насельніцтва ў ашчадных банках. Шматмільярдная крэдытная эмісія, прынятая нядаўна Вярхоўным Саветам да канца 1994 году яшчэ больш павялічыць інфляцыю і рост цэнаў на асноўныя прадукты харчаваньня й паслугі (камунальныя і г.д.).

Падуладныя прэзыдэнту структуры не пасьмелі не паслухаць яго, цэны «адкруцілі назад». Але дабрабыт беларускага жыхара ад гэтага амаль не павысіўся: патаньнелі толькі малако, кэфір, сьмятана, адзінкавыя хлебабулачныя вырабы ды малочнае дзіцячае харчаваньне. І не ў два-тры разы, а працэнтаў на 35. Цэны на астатнія тавары й прадукты па-ранейшаму засталіся высокімі і працягваюць расьці. Што і заканамерна. Паколькі эканоміка разьвіваецца не па ўказах прэзыдэнта, а па ўласных законах.

## ЭКАНАМІЧНЫ СТАН НА БЕЛАРУСІ КРЫТЫЧНЫ

У лістападзе ў праграмах беларускага тэлебачаньня было ціраз сказана, што раўнуючы да сьнежня 1993 году цэны на тавары ўзрасьлі агулам ў 11,2 разоў. Нацыянальны дэфіцыт рэспублікі раўняецца 1,2 мільярды рублёў, зь якіх 420 мільёнаў Беларусь вінаватая Расеі, пераважна за паліва — энэргэтычныя рэсурсы. Расея за гэты доўг хацела-б забраць у сваю ўласнасьць Белтрансгаз — прадпрыёмства газавае прамысловасьці Рэспублікі.

* * *

Міжнародны Валютны Фонд паведаміў беларускі ўрад, што ня дасьць рэспубліцы крэдытаў на суму 308 мільёнаў рублёў, матывуючы свае меркаваньні тым, што прэзыдэнт Лукашэнка загадаў вярнуць падвышаныя цэны да ранейшых (перад 1-ым лістападам), хоць у папярэдняй дамоўленасьці Міжнароднага Валютнага Фонду з кіраўнікамі рэспублікі было сказана, што цэны на шматлікія тавары ў рэспубліцы будуць перагледжаныя й дапасаваныя да рэальных эканамічных умоваў.

* * *

Прафсаюзы Беларусі паведамілі прэзыдэнта А. Лукашэнку, што калі жыцьцёвы ўзровень работнікаў будзе падаць, дакладней, каціцца ўніз, то ў краіне пачнуцца забастоўкі.

## СУСТРЭЧА ПРЭЗЫДЭНТА КЛІНТАНА С ПРЭЗЫДЭНТАМ ЛУКАШЭНКАМ

5-га сьнежня сёлета ў Будапэшце адбылася працоўная сустрэча прэзыдэнта ЗША Б. Клінтана з прэзыдэнтам Беларусі А. Лукашэнкам, якая, дарэчы, была аднэй зь нешматлікіх дву-дзяржаўных сустрэчаў у часе канфэрэнцыі «на вярхох» эўрапэйскіх дзяржаваў.

Прэзыдэнт Клінтан адзначыў дадатныя крокі рэспублікі Беларусь на шляху раззбраеньня як ядзернага, гэтак і стратэгічнага.

Гэтаксама на канфэрэнцыі Беларусь атрымала як з боку Злучаных Штатаў, гэтак і Англіі ды Расеі запэўненьні аб гарантаваньні ёй бясьпекі ды там жа была прынятая пастанова аб пачатку ўжыцьцяўленьня дагавору START 1.

## Беларусь вырашае...

28 лістапада сёлета Рада Бясьпекі Рэспублікі Беларусь прыняла пастанову, каб увайсьці ў кааліцыю «Партнёрства ў імя міру», Цэнтральна Эўрапэйскае Міждзяржаўнае арганізацыі, знанае пад англамоўным назовам як the Partnership for Peace (PFP).

## І САВЕТЫ ЗАХАВАНЫЯ І ПРЭЗЫДЭНТ ЗАДАВОЛЕНЫ

21 лістапада ў Менску закончыўся разгляд Канстытуцыйным судом справы аб прызнаньні адпаведнасьці Канстытуцыі Закону «Аб унясеньні зьмяненьняў і дапаўненьняў у Закон Рэспублікі Беларусь», «Аб мясцовым самакіраваньні і мясцовай гаспадарцы ў Рэспубліцы Беларусь», які фактычна «прыканчваў» савецкую ўладу на тэрыторыі рэспублікі.

За савецкую ўладу выказаліся 82 народныя дэпутаты, па ініцыятыве якіх Канстытуцыйны суд і разглядаў дадзеную справу. Адметнасьць гэтага судовага працэсу ў тым, што па-першае, ад яго вынікаў залежыла, ці атрымае прэзідэнт урэшце рэштаў права фармаваць мясцовыя органы ўлады, па-другое, гэты працэс стаў своеасаблівай праверкай на прафэсійнасьць і палітычную неангажаванасьць саміх членаў суда. Канстытуцыйны суд прыняў Саламонавае рашэньне: у прыватнасьці, суд пастанавіў прызнаць неадпавядаючым Канстытуцыі скасаваньне мясцовых саветаў. Аднак разам з тым, за Прэзыдэнтам было захаванае права прызначаць кіраўнікоў выканаўчай улады на месцах.

## ПРА ЎДЗЕЛ БЕЛАРУСАЎ У АРМІІ ГЕН. АНДЭРСА

Зь вялікай цікавасьцю прачытаў артыкул сп. Е. Тамашэўскага («Беларус» нр. 413) і яго спасылку на рапарт журналіста Б. Сінгера. Сп. Сінгер паведамляе, што «СССР станоўча супрацівіўся, каб іх (беларусаў ды украінцаў—М.Ш.) прыймалі ў польскую армію». А далей гэты аўтар піша: «Савецкі бок ствараў уражаньне, што гэта польскія мабілізацыйныя камісіі адмаўляюць, па сваёй ініцыятыве». Адным словам, палякі вінавацяць саветаў, а саветы вінавацяць палякаў. А ад усяго гэтага цярпелі бедныя беларусы, якія да 1939 году былі ляяльнымі польскімі грамадзянамі.

Варта тут зазначыць, што генэрал Сікорскі падчас перамоваў са Сталінам (3.12.1941) чамусьці не закрануў гэтай, так важнай справы, г.зн. забароны савецкім урадам браньня беларусаў і украінцаў у польскую армію. Чаму не? Ген. Сікорскі таксама, праўдападобна, не гаварыў аб гэтай забароне з савецкім міністрам А. Вышынскім. Чаму не? А можа тая забарона была выгадная для нейкіх польскіх эміграцыйных колаў? Як інакш разумець такое маўчаньне ген. Сікорскага?

Асабіста я думаю, што быў такі савецкі наказ ня браць беларусаў і украінцаў у польскую армію. Але гэты наказ, ці забарона, быў на руку некаторым польскім шавіністам, і быў ён выконваны пасьлядоўна, да літары. Я таксама перакананы, што калі-б было крыху добрай волі з боку палякаў, яны маглі-б браць больш беларусаў і украінцаў у сваю армію.

З розных прычынаў палякі не давяралі ўкраінцам больш, чым беларусам. Але на прызыўных пунктах адны і другія, беларусы і ўкраінцы, былі трактаваныя аднолькава. Вось што пісаў польскі пасол у СССР сп. Кот у лісьце польскаму ўраду ў Лёндане, апіраючыся на паведамленьні ген. Андэрса:

«Беларускія мужыкі зьяўляюцца, каб служыць у польскім войску, і да сягоньня не пасьцярожана сярод іх ніякага непатрэбнага зьявішча. Горш з украінцамі. ... Некаторыя (украінцы—М.Ш.) зьявіліся ў Польскае Войска, але жаўнераў-украінцаў мы разьмясьцілі групамі па аддзелах, і яны зьяўляюцца прадметам нагляду».

А ўжо ў студзені 1942 г. пасол Кот паведаміў свайму міністру замежных спраў, што «колькасьць украінцаў у войску вельмі паменшана. ... Беларусы вядуць сябе без дакору».

Пасьля такое пахвалы беларусаў можна было-б спадзявацца, што беларусаў будуць далей браць у польскае войска (калі не адкрыта, то паціху), а тых, што служылі, ня будуць звальняць, як гэта рабілі з украінцамі. Такія спадзяваньні аказаліся дарэмнымі, рэчаіснасьць была іншая. Вось што на гэтую тэму піша сп. З.С. Семашко («Дзеньнік Польскі», Англія, 13.03.1986):

«У адной з рэляцыяў (ліст Яна Залеўскага да мяне) я напаткаў цьверджаньне, што зь 5-й пяхоты ў Татышчэве былі размундзіраваныя і звольненыя з войска (польскага—М.Ш.) якіясьці беларусы. Аднак ня здолеў знайсьці пацьверджаньня такога факту».

Няма повадаў ня верыць сп. Залеўскаму. Дадам тут ад сябе, што ў 40-х гадох у Палестыне я спатыкаў беларусаў і ўкраінцаў, якія былі «звольненыя» з польскага войска. Прычынай звальненьня было, быццам-бы, слабое здароўе.

Варта тут пазнаёміцца з тэлеграмай пасла Кота да ген. Андэрса зь 17.02.1942 г.:

«Загад палкоўніка Рудніцкага (Клеменса) аб нябраньні меньшасьцяў быў так зрэдагаваны, што калі гаварыць пра гэбрэяў, украінцаў і беларусаў, то савецкія органы тлумачаць яго як адмову польскіх органаў браць іх у войска. Мы засыпаны жальбамі і пратэстамі ад гэтых нацыянальнасьцяў супраць такого становішча камандаваньня (польскага–М.Ш.). Ці нельга было-б знайсьці нейкую форму, каб паправіць гэты загад, які адкрыў-бы вочы пакрыўджаным?»

І так, з розных повадаў, у моц савецкіх ці польскіх наказаў і загадаў, беларусаў і ўкраінцаў, якія былі да 1939 году польскімі грамадзянамі, не хацелі браць у польскае войска ў СССР. А некаторых, якія ўжо былі ў гэтым войску, пад рознымі повадамі звальнялі. Украінцам прыпісвалі «пронямецкасьць», а беларусам — пакульня ведаем што. Палякаў не звальнялі. Ці-ж гэта не дыскрымінацыя? Чым і як гэта вытлумачыць?

І калі ўсё гэта рабілася, ня было каму за беларусаў і ўкраінцаў заступіцца, бараніць іх грамадзянскія правы. Бо трэба тут сказаць, што ў Польскай Народнай Радзе (Радзе Народовэй) у Лёндане ня было ані беларускага ані ўкраінскага прадстаўніка. Былі прадстаўнікі ад гэбрэяў.

Адзін з абавязкаў кожнага пасла — бараніць і глядзець за правамі сваіх грамадзянаў у чужой краіне. Гэта адносілася і да пасла Кота. У вышэй прыведзенай тэлеграме ён раіць паправіць загад палк. Рудніцкага, каб гэбрэям, украінцам і беларусам «адкрыць вочы». Добра, слушна. Яшчэ шырэй адкрыў-бы вочы гэтым людзям пасол Кот, каб ён спасылаўся ня толькі на савецкія ноты, а ўспамянуў-бы свае дакументы, ноты, лісты, у якіх ён бараніў сваіх грамадзян перад савецкімі органамі. Я ніколі такіх дакумэнтаў ня бачыў.

Цяжка пагадзіцца са сп. Тамашэўскім, калі ён піша, што «дакументы

*(працяг на б. 3)*

## ЯШЧЭ ПРА ПОЛЬСКУЮ ЭКСПАНСІЮ НА БЕЛАРУСІ

Зь вялікім задаваленьнем прачытаў у 415-м нумары «Беларуса» артыкул Аркадзя Будзіча пад заг. «Рэлігійны фэстываль у Магілёве і польскія імпэрыялістычныя лятуценьні». Таксама добра на гэтую тэму пісаў у «Беларусе» М. Швэдзюк.

А тэма балючая. Польская каталіцкая экспансія у Беларусі ня толькі прадаўжаецца, але й пашыраецца. Ведамы польскі паважны каталіцкі грамадзка-палітычны часапіс «Tygodnik Powszechny», які выходзіць у Кракаве у 7-м нумары ад 13-га лютага 1994-га году сёлета зьмясьціў артыкул польскага каталіцкага сьвятара-манаха Тамаша Заморскага (Tomasz Zamorski) пад вымоўным загалоўкам «Wy z nieba przyszli?». Аўтар, які прыехаў з Польшчы на Беларусь, апісвае паломніцтва (у якім сам узяў удзел) групы каталікоў зь Менску праз «Дабрарусь» (паўтараючы словы сучаснага польскага пісьменьніка Тадэвуша Канвіцкага, які так назваў Беларусь: «Беларусь, Беларусь ... Ты павінна называцца Дабрарусяй, павінна называцца Добрай Зямлёй Добрых Людзей») — у Будслаў, «ператвораны мясцовым духавенствам у беларускую Чанстахову». Убачыўшы іх у белых манаскіх габітах зь несеным на чале групы крыжом, малы вясковы хлапец зь вялікім зьдзіўленьнем спытаўся: Вы зь неба прыйшлі?» У Будславе «... сьвятыня была да межаў магчымасьці запоўнена людзьмі. У часе літургіі, адпраўлянай на беларускай мове, нажаль касьцёл маўчаў. На покліч сьвятара адкліякаліся нешматлікія галасы». Аўтар артыкулу тлумачыць гэту сумную зьяву даўняй прывычкай маліцца па-польску і тым, што яшчэ й сёньня «у бальшыні дзейных касьцёлаў літургія адпраўляецца на польскай мове не зважаючы на тое, што «на думку многіх беларусаў Касьцёл зьяўляецца інструмэнтам палянізацыі».

А вось што а. Заморскі піша пра тамашніх ксяндзоў: «Многія зь іх прыехалі з Польшчы, некаторыя, нажаль, **робяць Касьцёлу воўчую паслугу, узмацняючы польскія рэвіндыкацыйныя настроі»** (падкрэсьленьне У.Б.) Яны ня зь «неба прышлі», як здалося беларускаму хлопчыку, бо яны ня душпастыры, а ваўкі ў авечай скуры. Будучы імі, яны й робяць каталіцкай царкве «воўчаю паслугу», як піша а. Заморскі. Каталіцкая царква па сваёй структуры ёсьць унівэрсальная, усяленская. Але каталіцызм, які польскае духавенства прынясло на Беларусь у мінулым, і сёньня, на вялікі жаль, ізноў прыносіць, мае выразны польскі нацыяналтычны, неталерантна-шавіністычны характар. Зь ім трэба змагацца.

Адзін мянчанін, былы выкладчык філязофіі ў Беларускім палітэхнічным інстытуце, дацэнт, прачытаўшы ў менскім часапісе «Літаратура і Мастацтва» перадрук зь «Беларуса» майго артыкулу пра польскую каталіцкую экспансію на Беларусі «Гісторыя паўтараецца», у сваім лісьце да мяне пахваліў яго, але пры гэтым напісаў, што «урад Беларускай рэспублікі нічога ня можа зрабіць з польскімі ксяндзамі», бо маўляў, царква аддзелена ад дзяржавы. Я яму на гэта адпісаў, што ўрад (тады яшчэ Кебіча) зрабіць можа, але ня робіць, бо ён ня дбае пра беларускія нацыянальныя інтарэсы — яго гэта ня турбуе. Беларускі ўрад можа не даваць польскім ксяндзом візаў. А тых, якія ўжо прыехалі й нахабна займаюцца палітычна-дывэрсыйнай дзейнасьцю, якая ня мае нічога супольнага з душапастарска-рэлігійнай працай, можа дэпартаваць назад у Польшчу.

**Уладзімер Брылеўскі**

## Пра удзел... *Працяг з б. 2*

— калі існуюць — знаходзяцца ў расейскіх архівах». Чаму толькі ў расейскіх, а ня ў польскіх? Ноты, лісты і да т.п., якія былі адрасаваныя польскаму пасольству, павінны быць ня толькі ў савецкіх, але і ў польскіх архівах. А калі былі вусныя перагаворы, дык абавязкам пасла Кота было зрабіць рапарт і пераслаць міністру замежных спраў у Лёндан.

Тут у Англіі ў польскай эміграцыйнай прэсе таксама вельмі рэдка ўспамінаецца пра ўдзел беларусаў і іншых нацыянальнасьцяў у польскім Другім корпусе. У некаторых артыкулах, вельмі суб'ектыўных і аднабаковых, можна спаткаць і такую пісаніну, што беларусы, украінцы сваім выездам з Савецкага Саюзу «забралі месца палякаў, якія змушаны былі астацца і далей у СССР». З такімі цьверджаньнямі, а часта яшчэ больш абразьлівымі, не аднаму беларусу даводзілася спатыкацца заграніцай.

Ёсьць і іншыя польскія аўтары, якія, прачытаўшы пераважна замежную ўкраінскую прэсу, асуджаюць нас (беларусаў і ўкраінцаў), што мы хочам прысвоіць сабе гераізм і славу перамогі пад Монтэ-Касына. Але гэта няпраўда: мы ня хочам прысвойваць сабе таго, на што не заслужылі. Мы толькі хочам, каб гісторыя ведала, што ў бітве пад Монтэ-Касына бралі ўдзел ня толькі палякі, але і беларусы. Які быў там працэнт палякаў і беларусаў, дакладна ніхто ня ведае і ня будзе ведаць.

Дзеля справядлівасьці трэба ўспомніць і яшчэ адну групу польскіх эміграцыйных аўтароў, якія апісваюць гэтыя падзеі аб'ектыўна і рэчова. Належыцца ім за гэта падзяка.

У маім папярэднім і цяперашнім артыкулах я стараўся апісаць цяжкасьці, зь якімі спатыкаліся ў СССР беларусы, што хацелі ўступіць у польскую армію, каб ратаваць сваё і сваіх сем'яў жыцьцё. Тыя беларусы, якія ўступілі ў польскую армію ды выехалі ў Іран, а пасьля ў Італію, адчулі яшчэ раз вялікі жаль да палякаў. Справа ў тым, што яшчэ перад заканчэньнем вайны ў Італіі і пасьля вайны беларусы пабачылі, што ў польскі корпус прыймаюць ня толькі палякаў, але й людзей іншых нацыянальнасьцяў. Мала гэтага, некаторыя з гэтых людзей ніколі ня жылі ў Польшчы і ня былі польскімі грамадзянамі. Былі выпадкі, што бралі ў польскі Другі корпус і людзей, якія служылі ў нямецкім войску. Тое густое сіта дасканалай канструкцыі, што не прапускала беларусаў ў польскую армію ў СССР, цяпер ужо было вельмі спрошчанае, яно прапускала ўсіх і ўсё — чым больш, тым лепш. Зьмяніліся часы, зьмянілася каньюнктура, зьмянілася палітыка...

Аўтар гэтага артыкулу пісаў у польскія эміграцыйныя газэты ў Англіі на розныя беларуска-польскія тэмы, хацеў насьвятліць беларускі бок. Ягоных лістоў, артыкулаў не друкавалі.

*Англія.*

**М. Швэдзюк**

# ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ

Зь Вільні, зь Віленскай беларускай школы дасылаем мы Вам сваё шчырае прывітаньне. Нам прыемна паведаміць, што ад 1-га верасьня сёлета ў нас адчыненая сапраўдная беларуская школа. У ёй вучацца 140 дзяцей ва ўсіх клясах ад 1-й да 12-й. Настаўніцкі калектыў складаецца з 34 асобаў. Выбраны школьны Бацькоўскі Камітэт.

Дасталі мы сёлета й невялікі ўласны школьны будынак (мы, вядома, змагаліся за славутыя Базыльянскія муры, аднак літоўскія ўлады распарадзіліся іначай).

У нашай школе ўсе прадметы будуць выкладацца на беларускай мове, больш глыбока будуць вывучацца гуманітарныя навукі. Мы плянуем пашыраць беларускае школьніцтва ў нашым краі, працаваць ня толькі зь дзецьмі, але і зь іхнімі бацькамі. Такім чынам нашая школа становіцца значным культурным асяродкам, ад каторага будзе залежаць посьпех беларускага адраджэньня ў Вільні.

Зрэшты, мы запрашаем Вас да сябе ў госьці, прыяжджайце, калі ласка, пераканаецеся на ўсё самыя.

Ведама, зьдзейсьніць задуманае, вытрамаць канкурэнцыю літоўскіх, польскіх ды расейскіх школаў няпроста. Таму даводзіцца нам прасіць дапамогі, у тым ліку і Вашай, шаноўныя суродзічы.

Па-першае, мы хочам, каб нашая навучальная ўстанова засвоіла лепшыя традыцыі беларускага школьніцтва, таму хацелі б сабраць як мага болей матэрыялаў у гэтай галіне. Пры нашай школе мы будзем ствараць музэй Віленскай Беларускай Гімназіі, будзем зьбіраць і публікаваць мэмуары гімназічных настаўнікаў і вучняў. Будзем радыя, калі Вы зможаце нам дапамагчы чымсьці ў гэтым, альбо падкажаце, да каго б мы яшчэ маглі зьвярнуцца.

Па-другое, мы маем патрэбу ў добрай школьнай бібліятэцы, а яна яшчэ амаль пустая. Мы ведаем, што на эміграцыі было выдадзена нямала цікавых беларускіх кніжак і вельмі хацелі б узбагаціць імі нашую бібліятэку. Дарэчы, мы хацелі б камплектаваць наш кнігазбор ня толькі беларускай літаратурай. Нашыя вучні вывучаюць ангельскую й нямецкую мовы, сусьветную гісторыю й культуру, таму нам вельмі прыдаліся б якісь маляўнічыя, зьместоўныя кнігі, выдадзеныя ў Вашых краінах. Тут жа будзе дарэчы сказаць пра яшчэ адну просьбу. Мы б хацелі завязаць сталае супрацоўніцтва з навучальнымі ўстановамі ў Вашай краіне. Таму, калі ласка, пашырайце паўсюль інфармацыю аб Віленскай беларускай школе, — можа, знойдуцца школы, што захочуць завязаць з намі сяброўства.

Па-трэйцяе, нам, вядома, патрэбныя грошы, каб ажыцьцявіць многія нашы праэкты. Натуральна, мы патрабуем грошай ад літоўскіх уладаў, просім іх і ў Беларускай дзяржавы. Аднак і адныя і другія чыноўнікі пагляддаюць на нас скоса, бо ні адныя, ні другія не падзяляюць нашага патрыятызму. Таму й вымушаныя мы зьвяртацца да людзей, якія зразумеюць нас, бо ў іх самых баліць сэрца за беларускую справу. А выдаткі ў нас, асабліва цяпер, вельмі вялікія. Мы змушчаны былі пазычыць грошы й купіць аўтобус, каб давозіць дзяцей з усіх куткоў Вільні. У будынку, які нам перадалі ўлады, раней мясьціўся дзіцячы садок. Каб зрабіць зь яго нармальную школу, у часе вакацыяў трэба будзе правесьці значную перабудову. Трэба забясьпечыць школу сучасным абсталяваньнем, што зноў жа патрабуе немалых выдаткаў.

Карацей кажучы, праблемаў маем багата, але з Вашай падтрымкай патрапім іх перамагчы.

Напрыканцы нашага ліста яшчэ раз запрашаем Вас у красуню-Вільню, «Крывіцкую Мэкку», мы пастараемся зрабіць усё належнае, каб Вы пачувалі сябе тут утульна.

**Дырэктар Віленскай беларускай школы**
**Галіна Сівалава**

Наш адрас:
Беларуская Сярэдняя Школа № 68
Sietyno 21,
2050 Vilnius,Lietuva

Вашы грашовыя ахвяраваньні дасылайце, калі ласка, на гэты самы адрас з пазнакаю імя старшыні школьнага Бацькоўскага Камітэту: Тацяна Шмідт.

## У СНД — ЯШЧЭ АДЗІН КІРАЎНІЧЫ ОРГАН

Адным з найбольш важных вынікаў сустрэчы кіраўнікоў дзяржаваў СНД зьяўляецца падпісаньне Палажэньня аб міждзяржаўным урадавым камітэтце (МУК). У адрозьненьне ад існуючых структур Садружнасьці МУК валодае правам прымаць рішэньні, якія будуць абавязковымі для выкананьня дзяржавамі. У яго кампэтэнцыі улучаныя: транспарт, сувязь, энэргазабеспячэньне, стварэньне агульнага рынку тавараў, валютнага саюзу пры захаваньні нацыянальных валютаў. Па спрэчных пытаньнях МУК можа зьвяртацца ў эканамічны суд.

Быў падпісаны дакумент па стварэньню плацёжнага саюзу.



## *КАЛЯДНАЯ ЯЛІНКА*

Управа БАЗА Аддзелу Нью-Джэрзі запраше Вас і Вашую сям'ю на Калядную Ялінку, якая адбудзецца 8-га студзеня 1995 году у прыцаркоўнай залі Царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлянд-Парку пасьля Багаслужбы а 12:00 гадзіне ўпоўдзень.

У праграме Дзед Мароз, музыка, сьпевы, пачастунак і падарункі для дзяцей.

Ахвяра 5 даляраў.



# НАД МАГІЛКАЙ СЬВ. ПАМЯЦІ КАМПАЗЫТАРА МІКОЛЫ РАВЕНСКАГА


*Паховіны Міколы Равенскага, 1953 год*

Раніцаю 3-га лістапада сёлета званіць мне сп-ня Зоя Маршчок і кажа, што абавязкава трэба зьведаць магілку праф. М. Равенскага.

Праз пару гадзін мы ўдваіх над магілкай нашага слаўнага й дарагога прафэсара й кампазытара Міколы Равенскага.

З самага ўваходу могілкі мелі цудоўны выгляд — усе магілы ўпрыгожаныя кветкамі, ўчора, 2-га лістапада, быў «Дзень памёрлых», што ў нас «Дзяды».

Магілка сп. Равенскага была пустая, але не надоўга, бо Зоя прывезла з сабою прыгожы букет кветак, які мы паставілі на магілцы. Сказаўшы адпаведныя з нагоды малітвы, мы разьвітваемся і абяцаем, што ў хуткім часе зноў адведаем.

Тут мне маланкава праляцела ў памяці ўсё, што я зь нябожчыкам супольна перажыў: удзел у хоры под ягоным кіраўніцтвам, у Нямеччыне адразу пасьля вайны, а потым у Лювэне і супольнае жыцьцё ў тым самым Лювэне. Адначасна ўспомніўся мне даволі прыкры й аскарджальны для нас, былых лювэнцаў, артыкул Дзіяны Чаркасавай, надрукаваны ў № 18, 20-га красавіка 1992 г. у Голасе Радзімы. Прайшло больш за два гады, а да гэтага часу ніякіх спраставаньняў ці пярэчаньняў я ў прэсе не заўважыў, дык уважаю патрэбным, падаць да агульнага ведама некаторыя фальшывыя цьверджаньні ў вышэйсказаным артыкуле.

Па-першае хачу падкрэсьліць, што, паколькі я памятаю, др. Руткоўская пры жыцьці праф. М. Равенскага ніколі ў Лювэне ня была, мы студэнты-лювэнцы яе ніколі ня бачылі і таму зь вялікім зьдзіўленьнем мы яе ўпершыню ўгледзелі на паховінах.

Паводле выказваньняў сп-ні Руткоўскай, кампазытар Равенскі прыехаў у лювэнскі ўнівэрсытэт у красавіку 1950 году або й раней на пасаду рэгэнта хору. Гэта ня зусім адпавядае праўдзе.

Праф. Равенскі прыбыў у Лювэн у чэрвені 1950 году. Я сам асабіста хадзіў яго спатыкаць. У тым годзе у Нямеччыне лягеры г.зв. «перамешчаных асобаў» пачалі разьвязвацца. Праф. Равенскі знаходзіўся ў сытуацыі як і ўсе іншыя — мусіў шукаць краіну да эміграцыі.

У Лювэне ў той час зарганізавалася паважная група беларускіх студэнтаў. Мы мелі маленькія стыпэндыі, зь якіх, акрамя кватэры й ежы, атрымвалі па 200 б.фр. на месяц, як кішаньковавыя грошы. Да параўнаньня трэба зазначыць, што ў той час білет у кіно каштаваў 30 б.фр., пакет цыгарэтаў — 10, шклянка піва — 6. Дык вось можна ўявіць сабе як мог студэнт «разгуляцца» на тыя 200 б.фр.! Праўда,у часе канікулаў была, некаторым «шчасьліўцам», магчымасьць падзарабіць на фермах ці ў рэстаранах або кафэйках... Студэнты, якія былі ў той час у Лювэне, амаль усе некалі сьпявалі ў розных хорах і некаторыя мелі добрыя галасы. Таму нарадзілася ідэя прыняць у нашую групу й **на нашае ўтрыманьне** камп. Равенскага з мэтаю зарганізаваць мужчынскі хор. Спадар Равенскі на гэта з задаваленьнем згадзіўся. Бо куды-ж ён мог эміграваць? Ніякая краіна ў той час не цікавілася інтэлектуаламі. Ім патрэбна была толькі працоўная сіла.

Вышэй сказаў, што я сам хадзіў на станцыю яго спатыкаць, калі ён прыяжджаў зь Нямеччыны. Выбраўся з гадзіну раней да прыезду цягніка, каб не «празяваць». Па дарозе на станцыю, на галоўнай вуліцы Лювэну, зь вялікай неспадзеўкай і зьдзіўленьнем бачу йдзе насустрач мне камп. Равенскі. – Добры дзень, спадар Равенскі! – вітаю я яго – А, добры дзень! – адказвае ён мне. – Як-жа гэта Вы прыехалі раней? – пытаю яго. – А я, знаеце – адказвае ён – сеў у Кёльне наранейшы цягнік дык ужо нейкае паўгадзіны таму прыехаў. Крыху пачакаў, а пасьля пайшоў з адрасам на паперцы. – А дзе-ж Вашыя рэчы? – пытаю – А вось тут – паказвае ён мне маленькую валізачку, якое я нават не заўважыў. Праўду сказаўшы – я гэтаму не зьдзівіўся, бо сам едучы ў 1948 годзе ў Ангельшчыну на працу ў капальні большае ня меў і тая ня была поўная.

Вось так да нас далучыўся кампазытар Мікола Равенскі. Спэцыяльных фондаў для яго ня было. Мы павінны былі дзяліцца з агульнае сумы нашых стыпэндыяў. Трэба аднак зазначыць, што камп. Равенскі атрымаў лепшыя ўмовы чымся мы, студэнты, і гэта было для ўсіх зразумела. Каб даць адпаведныя ўмовы для працы, праф. Равенскаму спачатку была нанятая прыватная кватэра (праз тры-чатыры дамы ад студэнцкага дому на пляцы Гувэра № 8. Дарэчы, тую кватэру дапамагалі яму даглядаць нашыя-ж студэнты (найчасьцей Вітаўт Кіпель і М. Вострыкаў). Калі-ж мы перабраліся ў новы будынак на тым самым пляцы пад нумарам 19, то сп. Равенскаму прызначылі два пакоі — у вадным зь іх ён спаў, а ў другім паставілі піаніна, дзе ён працаваў. У той час, мы жылі найменш па двох, а то й па чатырох у адным пакоі.

Усе канцэрты, якія мы давалі, як у Бэльгіі, так і за ейнымі межамі рабіліся больш для нашае нацыянальнае справы чымся для нейкага «даходу». Грошы, якія «удавалася» сабраць на іх, ішлі ў большай частцы на пакрыцьцё расходаў зьвязаных з арганізацыяй гэтых канцэртаў, а рэшта — на агульную дапамогу студэнтам, у тым ліку й камп. Равенскаму.

Адносна ягонае хваробы дык, нажаль, я вельмі мала быў паінфармаваны. Памятаю толькі, што, дзесь у 1952 годзе запісваючы кружэлкі ён ужо быў хворы. Магчыма прадчуваючы блізкі канец, як быццам сьпяшаўся закончыць запісваньне. У 1953 годзе будучы ў шпіталі, дзесь 6-га ца 7-га сакавіка, перад самой ягонай сьмерцьцю, я яго зьведваў, не памятаю зь кім, і мы яму паведамілі, што Сталін памёр 5 сакавіка. Трэба было пабачыць, як зьмяніўся ягоны твар. Баццам-бы ён поўнасьцю ачуняў. Толькі адно памятаю, як ён сказаў: «Ах, Божачка, дзякую Табе, што даў мне магчымасьць дачакаць гэтага мамэнту...» Апошнія, хто адведаў сп-ра Равенскага ў шпіталі былі Вітаўт Кіпель і Зора Савёнак.


*Над сьвежай магілкай. Зьлева-направа: сьпявачка Лідзія Янушкевіч, Зора Савёнак-Кіпель, В. Кіпель, Ю. Сенькоўскі, 1954 год*

Калі заходзіць гаворка пра жыцьцё праф. Равенскага ў Рэгенсбургу (дарэчы Рэгенсбург ад Альпаў знаходзіцца далекавата — аўтарка відавочна не азнаёмленая зь геаграфіяй Нямеччыны). Прыехаў ён у Рэгенсбург восеньню 1945 году разам з пісьменьнікам Юркам Віцьбічам і, як усе тады «перамешчаныя асобы» адразу апынуўся на ўтрыманьні арганізацыі УНРРА, ды з пачуцьця грамадзкага абавязку адразу ж пачаў арганізоўваць хор (супольна зь Міколам Куліковічам-Шчагловым). У хор запісалася шмат моладзі, бадай найбольш, будучыя вучні гімназіі імя Янки Купалы (а пазьней, шмат зь іх былі студэнтамі ў Лювэне).

Што найбольш фальшыва высказана, і прыкра было чытаць у артыкуле — гэта, цытую: «Яна (г. зн. Руткоўская, Я.Ж.) не разумее, як магло стацца, што ў дзядзькі не аказалася грошай, зь якіх можна было-б заплаціць за месца на могілках. У пісьмах Т. Руткоўскай ёсьць горкія словы пра тое, што «сябры» кампазытара «разграбілі» яго маёмасьць, а пры жыцьці выкарыстоўвалі яго музычныя здольнасьці і на тым зараблялі немалыя грошы. Ён быў для іх сімвалам Беларусі, але быў адзіным спецыялістам сваёй справы, сродкам беларускай прапаганды і крыніцай сродкаў для БНР».

Гэта — проста вяртаньне да старых мэтадаў фальсыфікацыі з сталінскіх часоў. Др. Руткоўская, дзядзькам зацікавілася толькі пасьля ягонае сьмерці, бо спадзявалася на «вялікую спадчыну». Яна вельмі добра ведала, якая была гэтая «спадчына» будучы ў Лювэне пасьля сьмерці дзядзькі. Казаць, што «сябры» ягоныя разграбілі ягоную маёмасьць, што ён «быў крыніцай сродкаў для БНР» — гэта проста бессаромны паклёп. Гэткія выказваньні пісаліся ў Голасе Радзімы ў той час, калі паклёпы на беларускую эміграцыю былі стандартныя, безадказныя, проста, магчыма, па заказу партыі. Але цяпер?...

Аб пабыце Ольгі Алексеянка, дачкі праф. Равенскага, у Бэльгіі й зьведваньне ёю бацькавае магілкі мы ў свой час пісалі ў Беларусе № 365, сьнежань, 1989 г.

**Янка Жучка**

## ЗВАРОТ ДА БЫЛЫХ СТУДЭНТАЎ МАРБУРГУ Й ЛЮВЭНУ

На мяне выпаў прыемны, але адначасна цяжкі абавязак напісаць успаміны аб нашых студэнтах у Марбургу ды Лювэне. Многія прыслалі мне свае заўвагі ды дапаўненьні. Шмат каго я ня мог знайсьці, каб звярнуцца з просьбай мне дапамагчы.

Шляхам нашай прэсы звяртаюся да ўсіх за дапамогай. Кожная дэталь будзе важная. Будзем імкнуцца падаць гісторыю сямейнага, прафэсыйнага ды грамадзкага жыцьця кожнага абсэльвэнта. Гэта дасьць паўнейшы вобраз аб беларускім студэнцтве на эміграцыі.

Некаторыя ўжо ад нас адыйшлі, але ёсьць іх сябры, якія могуць падаць інфармацыі аб жыцьці ды дзейнасьці адышоўшых.

Просьба падаваць усё, што будзеце лічыць карысным для будучых дасьледнікаў гісторыі нашай дыяспары.

Таксама зьвяртаюся да былых студэнтаў Мюнхену, Мадрыду, Парыжу ды іншых унівэрсытэтаў, каб папоўніць інфармацыі. Ад Вас будзе залежыць якасьць і вартасьць гэтага важнага праэкту.

Веру, што Вы усе адгукнецеся ды папоўніце гэты цікавы дакумэнт з жыцьця нашай дыяспары.

**Б. Рагуля**

Dr. B. Ragula
579 Willowdale Ave.
London. Ont. Canada
N5X-1J2
Tel. 519-4325164 home
519-6672264 office
Fax 519-6722502 home
519-6736578 office

## Сп. А. Лукашэнка затрымоўвае продаж ракетаў

Прэзыдэнт Лукашэнка затрымаў, папярэдня ўзгодненны кантракт, на продаж S-300-PMU ракетаў амэрыканска-канадскай фірме, матывуючы свой ўчынак там, што гэтыя ракеты распрацоўваліся Беларусьсю і Расеяй, а таму й продаж ракетаў павінен быць узгодненны з Рассеяй. Як выглядае, прэз. Лукашэнка ня прыймае пад увагу, што ваенная тэхніка й маемасьць раней была савецкай і што рэспублікі былога Саюзу атрымалі сабе ў спадчыну тыя савецкія ваенныя ўзбраеньні, якія знаходзіліся на іх тэрыторыях, а сёньняшняя Расея атрымала найболей. Дзяліць-жа нашую маемасьць з Расеяй ды пытаць ў Расеі дазволу азначае далейшае ліквідаваньне беларускае сувэрэннасьці. Пры гэтым, такі акт — парушэньне міжнароднага дагавору.

### БЕЛАРУСКІЯ ВЫСТАВЫ Ў МУЗЭІ МАСТАЦТВА

Ад 15-га лістапада 1994 году да 15-га студзеня 1995 году ў Мастацкай Бібліятэцы Ратгэрскага Унівэрсытэту дзейныя дзьве беларускія выставы. Адна зь іх, «Чарнобыль — Дзеці ў бядзе» дакумэнтуе Чарнобыльскі боль праз 18 чорна-белых фатаграфіяў Анатоля Кляшчука. Здымкі паказваюць скалечаных дзяцей, дзяцей у шпіталі ды боль маткі, якая не адыходзіць ад свайго дзіцяці. Анатоль Кляшчук, ведамы малады фатограф-журналіст, наведаў сёлета Злучаныя Штаты з дапамогай Фундацыі Сораса.

Другая выстава, у сувязі з надыходзячымі сьвятамі, паказвае беларускія народныя мастацкія вырабы зь ільну й саломкі: калекцыю льняных лялек з калекцыі Галіны Русак і саломкавыя вырабы (лялькі, інкрустацыя на драўляных скрыначках) з калекцыі Аляксандра Сільвановіча.

### «МАСЕЕВА КНІГА»

Пад гэткім загалоўкам выйшла ў менскім выдавецтве «Мастацкая літаратура» кніга беларускага пісьменьніка Масея Сяднёва, які жыве ў Амэрыцы. У кнізе (320 ст.) зьмешчаныя ўспаміны, старонкі дзёньніка, эсэ. «На яе старонках, — піша М. Сяднёў, — аўтар паспрабаваў выказаць сваё патаемнае, чутае душой... У кнізе, у яе цэнтры, ляжыць нібы другая, асобная кніга — ‘біблейскія’ вершы і пераклады. Ладна дапоўнілі кнігу лісты — мае і мной атрыманыя».

Матар'ял «Масеевай кнігі» разнастайны формаю і зьместам, тэматычна шырокі, шмат гутаркі пра надзённыя справы, што адлюстроўваюць працэс аднаўленьня сувязяў паміж эміграцыяй і Бацькаўшчынай. Кніга чытаецца зь вялікай цікавасьцяй.

### ВІРГІНЬНЯ «ДАНЧЫК»

Ужо адзін сэзон адцьвіла кветка «Віргіньня Данчык» у Менскім Батанічным Садзе й у гародчыку спадарства Юлі й Паўла Андрусышыных на фарме «Мой родны кут» у Кетскільскіх горах у штаце Нью-Ёрк.

Старым прынятым звычаем сьпевакоў узнагароджваюць кветкамі й воплескамі пасьля іхных канцэртаў. Гэтак і нашага ведамага беларуска-амэрыканскага сьпевака Данчыка (Багдана Андрусышына) спатыкалі у 1989-м годзе на Беларусі, калі ён адведаў з канцэртамі Менск, Віцебск, Полацк і інш. гарады Беларусі ды суседніх краінаў.

Але Менскі Батанічны Сад улічваючы вялікую ролю Данчыкавых выступленьняў, ягоную любоў да Беларусі, беларускай мовы, беларускай народнай песьні ды асабліва ягоны ўплыў на адраджэнскі рух моладзі, выгадаваў новы гатунак чырвона-цэглістага колеру віргініі й надаў ей імя «Дачык», каб цьвіла і ўшаноўвала ягоныя заслугі на працягу гадоў. **А.Ш.**

### «ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ» ЯНКІ ЮХНАЎЦА

Пад загалоўкам «Сны на чужыне», у менскім выдавецтве «Мастацкая літаратура», у сэрыі «Галасы беларускага замежжа», выйшла кніга выбраных паэтычных твораў Янкі Юхнаўца, які жыве ў Нью-Ёрку. У зборніку (220 ст.) — вершы й паэмы 1940–70-х гадоў. Паэт Алесь Бяляцкі, укладальнік і аўтар прадмовы пад заг. «Адкрыцьцё прыхаванага сэнсу», піша: «З пэўнасьцю можна сказаць — мы маем стасункі з буйным беларускім паэтам, творчасьць якога, пры ўмове хай сабе і запозьненага асэнсаваньня і спасьціжэньня сучасьнікамі, можа зрабіць значны ўплыў на далейшае разьвіцьцё беларускай паэзіі».

## МУЧАНІЦА ЛАРЫСА ГЕНІЮШ



Ларыса Геніюш — знаная ў Беларусі паэтка, актыўная змагарка за родную мову, культуру, гісторыю, пакараная за сваю дзейнасьць дваццацьцю пяцьцю гадамі сталінскіх лягераў, была для сёньняшніх актывістаў адраджэнскага руху сваеасаблівым сымбалям, сьцягам. Вучыліся ў яе нацыянальнай вернасьці, адданасьці, руплівай працы.

Цяпер, калі надрукаваная яе *Споведзь* больш шырока і актыўна стала вывучаецца яе жыцьцё, адкрылася яшчэ адна грань яе багатага духоўнага сьвету. Праз усе нягоды й выпрабаваньні Ларыса Геніюш пранесла глыбокую веру ў Хрыста-Збаўцу, яе праваслаўнасьць, была шчырай і самаахвярнай. Са старонак *Споведзі*, зь лістоў да сяброў і аднадумцаў, з успамінаў людзей, якія разам зь ёю баранілі Царкву, сьвятароў і вернікаў выразна паўстае вобраз Мучаніцы дваццатага стагодзьдзя.

Праз усё сьвядомае жыцьцё Ларыса Геніюш змагалася і пакутавала за Беларусь, праваслаўную веру, сваю паэзію. У такім трыадзінстве пра гэтую слаўную Асобу йшла сёлета гаворка ў праграме Беларускага тэлебачаньня *Існасьць*. У першы дзень Вялікадня яе вялі прадстаўнікі Беларускага праваслаўнага брацтва Трох Віленскіх мучанікаў. Прагучала і вось гэтая цытата са Споведзі: «... недзе зазванілі ў царкве на вячэрню і праз кратаванае вакно прабілася вельмі яснае неба. Сонца яшчэ не заходзіла. Сэрца маё перапоўніла прага малітвы і я пальцам па чорным, запыленым падаконьніку, пачала маляваць голаў ХРЫСТА ў цярновым вянку ...Абраз выйшаў вельмі харошы, быццам нехта натхнёна вадзіў маею рукой, і мне пацяклі сьлёзы. У гэты мамэнт з грукам адчыніліся дзьверы, і разьюшаны савецкі афіцэр схапіў мяне за шыю і пачаў раўсьці, паказваючы на Хрыста. «Кто это, кто это?» «ХРЫСТОС», – кажу. Тут ён выразіўся на ХРЫСТА такім жудасным, непаўторным словам, якое толькі можа прыдумаць абсалютнае бязсільле ўбогага твору ў змаганьні зь ніколі недасяжнай яму веліччу духу. Паўтарыць гэтага не магу. «Ещё 5 суток карцера ей за эти рисунки – сачыў няшчасны, сьціраючы рукавом з шырокага бліскучага падаконьніка галоў ХРЫСТА. А за вакном званілі саладка званы і блізіўся дзень ХРЫСТОВАГА ЎВАСКАСЕНЬНЯ».

У жыцьці Ларысы Геніюш такія здарэньні былі не адзінкавыя, нават пасьля вяртаньня зь месцаў зьняволеньня ў Зэльву, у дом Геніюшаў.

Сёлета ў жніўні-верасьні яе імя даволі шырока зьявілася на старонках беларускіх газэтаў. Актывісткі жаночага руху выступілі зь ініцыятывай стварэньня ў Зэльве музэю, прадстаўнікі дэмакратычных колаў Менску наведалі магілу Паэткі, сустрэліся зь мясцовымі ўладамі. Ёсьць зрухі ў лепшы бок. Нажаль, ні ў аднай з публікацыяў не атрымала разьвіцьця думка пра кананізацыю МУЧАНІЦЫ ЛАРЫСЫ.

Што думаюць пра гэта беларусы ў вольным сьвеце?

**Валянціна Трыгубовіч**

## КУРАПАТЫ Ў НАС НЕ АДНЫ

У 1955-м годзе Уладзімер Дудзіцкі напісаў рэвеляцыйнае апавешчаньне «Тайніцы Сьляпянскага лесу», якое ў свой час перадавалася па радыё «Вызваленьне». Апавяданьне гэтае раскрывае адно са злачынстваў сталінскіх часоў у Беларусі — мейсца, дзе былі замардаваныя каля дзесяцёх тысячаў непавінных людзей.

А колькі яшчэ было ў нас гэткіх Сьляпянскіх лясоў і Курапатаў?

Ніжэй перадрукоўваем апавяданьне Ул. Дудзіцкага, зьмешчанае ў нававыдадзеным зборы ягоных твораў «Напярэймы жаданьням».

**Ул. Дудзіцкі**

### *Тайніцы Сьляпянскага лесу*

За Менскам, на шостай вярсьце ад Парку Культуры й Адпачынку, у лесе Малой Сьляпянкі, пахаваны вялікія тайніцы жыцьця. Сьляды страшэннага злачынства пазарасталі даўно мохам і травою, але памяць часам ня спямілася.

Я хачу расказаць пра тое, што бачыў на собскія вочы, і тое, што гаварылі мне жывыя сьведкі ды апавядальнікі чутага ад іншых. Ня ведаю, дзе цяпер гэтыя людзі. Бальшыня зь іх, напэўна, загінула ў канцэнтрацыйных лагерах Сібіру, а косьці іншых, магчыма, буцьвеюць у тым самым Сьляпянскім лесе... Пра гэтую праўду не напіша ніколі ні маскоўская «Праўда», ні менская «Зьвязда».

1932 год. Студэнты Менскага Пэдагагічнага Тэхнікуму імя Ўсевалада Ігнатоўскага адбывалі на Дасьледчай Станцыі ў Малой Сьляпянцы сваю месячную сельскагаспадарчую практыку. Дырэктар станцыі папярэдзіў: «За дзьвесьце мэтраў ад баракаў пачынаецца ваенная зона, хадзіць туды забараняецца!»

Аднаго дня наказалі мне, што бацькоў выгналі з калгасу, а старэйшага брата пасадзілі ў турму. Хацелася йсьці на край сьвету. Надвечар я паклікаў блізкага сябра Сяргея Русаковіча, маладога беларускага пісьменьніка, і мы, нікому нічога ня кажучы, падаліся ў лес. «Стары Барыс, што корміць канадыйскіх карпаў у сажалках, кажнага досьвітку бачыць «чорнага ворана», а тая ў лесе камяніца, кажа ён, ня дом адпачынку, а нейкая катавальня...» — гаворыць Сяргей. «А Рачыцкая, дачка камісара, гаворыць, што там поўна хворых», — заўважыў я. Розныя ходзяць чуткі... Каля забалаці, улева ад чыгункі Менск–Масква, мы прачыталі напісанае чырвонымі літарамі: *«Конскі могільнік. Небясьпечна!»* Мноства засыпаных і незасыпаных ямаў. Кавалкі гліняных трубаў, кучы хваёвых слупоў і скруткі калючага дроту. «Гэта, гаворыць сябра, для адводу вачэй... Барыс ведае ўсё чыста, папытайся толькі яго»...

Лес гусьцеў і рабіўся цямнейшы перад заходам сонца. У подыху вільгаці пахла трупной гнілотай. І вельмі блізка... Пачалі шукаць. «Бачыш?» — з жахам зьвярнуўся я да Сяргея. Дагэтуль не даваў веры, што можа ледзянец цела й заміраць сэрца. На плашчыні нейкіх трох гэктараў, паміж радамі пасаджаных у 1925 годзе хвоек, жаўцелі, размытыя пазаўчарашнім дажджом, маленькія курганкі і велікаватыя насыпы. Было іх нешта каля шасьцідзесяцёх на першым пляне, а далей — яшчэ... і яшчэ... Шмат якія былі заваленыя ламаччам.

Весткі з дому і пах магільнай, чалавечай гнілі адурманілі галаву. Я адарваў вокладку Марксавага «Капіталу» і напісаў: *«Пад якімі-ж курганамі буцьвянеюць косьці маіх братоў: Якава, Уладзімера, Андрэя і Вінцэся?»* Вокладку насадзіў на сук галіны, што абдымалася з аброслым травою курганам. «Ты звар'яцеў, ці што?» — з трывогаю крыкнуў Сяргей Русаковіч. Мне таксама хацелася крычаць і клікаць людзей шукаць родных і блізкіх. Пакідаючы месца вялікага бойнішча, гэткія словы вырваліся з маіх грудзей: *«Пачакайце, бальшавіцкія далакопы»...*

На скрыжаваньні лясных сьцежак убачылі мы некалькі мужчынаў з рыдлёўкамі ў руках, абкружаных чырвонагаловымі энкавэдыстамі з сабакамі. Нельга было ўцякаць: перад намі стаяў ужо чалавек з аўтаматам. У вобразе гэтага двухногага зьвера я назнаў рабатварага Васіля, Гіцля Бессардэчнага, як празвалі яго людзі маіх родных Дудзічаў. «Нешта вельмі шмат коней здыхае ў вас...» — сказаў я не вітаючыся. «Глядзі, разумнік, каб замест каня твая галава ня трапіла ў яму... Ідзі, каб і духу твайго ня было тут... Пагаворым пазьней», — аўтарытэтна выказаў Гіцаль Бессардэчны.

Каля Дасьледчай Станцыі сустрэлі нас сябры: Сяргей Астрэйка, аўтар ненадрукаванай выдатнай «Бэнгаліі», Сяргей Гайка, Касянкоў, брат Міхася Зарэцкага, і студэнт Адам, пляменьнік Адама Бабарэкі. Апошні, моцна ўсхаляваны, паведаміў: «Дзядзька Барыс і студэнт Ахрэмчык — арыштаваныя. Дырэктар пытаўся пра вас...»

Ноч была няпрыемнай і вельмі трывожнай. Усе драбніцы, як жывыя, стаяць перад маімі вачыма. Мне здаецца, што й цяпер яшчэ чую дзікі крык ратунку, які даносіўся тае начы да нашага слыху з-пад таямнічае жоўтае камяніцы Сьляпянскага лесу.

28-га лютага 1933 году вокладка Марксавага «Капіталу» зь імёнамі маіх братоў ляжала на стале сьледчага ў мурох Менскага НКВД. Сухатвая Навіцкая, што часта наведвала рэдакцыю газэты «Савецкая Беларусь», а пазьней і Малую Сьляпянку, гаварыла магільным галасом: «Вось мы й спаткаліся... Спадзяюся, што спаткаешся і з братамі...»

Увесну 1935-га году ў чырвоных мурох Марыінскае турмы, у Сібіры пазнаёміўся я зь Вячаславам Ануфрыевым, былым малодшым лейтэнантам Менскага НКВД. Аднавокі сухотнік часта паўтараў мне: «Моцна пакараў мяне Бог за сьляпянскія душы... Ляжыць там ня менш дзесяці тысячаў».

*26 сьнежня 1955*

# СТ. ТАМАРА АМЭРЫКА — МАЯ АМЭРЫКА



*Адкрыцьцё выставы. Прамаўляе Р. Гарэцкі*

Нацыянальны Мастацкі Музэй Рэспублікі Беларусь шмат пабачыў урачыстых прэзэнтацыяў і нязвычайных выставаў. Але тое, што адбылося 30-га верасьня сёлета ўнікальнае й гістарычнае ва ўсіх адносінах — музэй прымаў выставу «Амэрыка — мая Амэрыка» амэрыканскай мастачкі, беларускі па паходжаньню Тамары Стагановіч (вядомай у мастацкім сьвеце, як Ст. Тамара). Па сьведчаньню знаўцаў і аматараў мастацтва, супрацоўнікаў музэю такога бляску і колькасьці запрошаных гасьцей музэй ня бачыў ніколі. І ўсё гэтае сьвята зарганізаваў мастак-манумэнталіст, даверaная асоба Ст. Тамары на Беларусі — Сяргей Крыштаповіч. Каб надаць выставе гістарычную значнасьць, былі запрошаныя ўсе рэпрэзэнтаваныя на Беларусі амбасады, прадстаўніцтвы, фонды, камітэты, дзеячы мастацтва й культуры, навукоўцы ды й бізнэсмэны.

Шлях да ўрачыстай прэзэнтацыі быў адначасна складаным і вельмі цікавым. На працягу цэлага году Сяргей са сваёю жонкай Алай Нароўскай — этнографам і мастацтвазнаўцам рыхтавалі тую ўрадлівую глебу, на якой павінна было прарасьці зерне таленту Ст. Тамары на роднай Бацькаўшчыне. Яны падавалі артыкулы да друку пра творчасьць мастачкі ў часопісы й газэты, уклалі каталёг, дзе сп-ня А. Нароўская зьмясьціла свой артыкул *«Ст. Тамара — музыка памяці»*. У чэрвэні сёлета Сяргей Крыштаповіч прыняў удзел у Міжнароднай канфэрэнцыі «Культура беларускага замежжа» з дакладам «Архетыпічныя вытокі творчасьці Ст. Тамары».

Але самым складаным этапам арганізацыі выставы, бясспрэчна, быў пошук сродкаў на транспартацыю твораў, выданьне каталёгу, афішаў ды запрашальных білетаў, тэле й радыё рэкляму. Тут дапамагалі Фонд Сораса пад началам Элізабэты Стэдлі ды Інфармацыйна-культурная служба ЗША пад началам Конрада Тэрнера.

Напярэдадні выставы Сяргей, як давераная асоба, праінфармаваў тэлевізыйныя і радыёрэдакцыі, рэдактараў часопісаў і газэтаў ды запрасіў іх на асьвятленьне ўрачыстасьці.

Гэтай падзеі быва прысьвечаная газэта «Культура» ад 28-га верасьня. Часопіс «Беларусь» у сваім № 10 зьмясьціў артыкул Алы Нароўскай «Любоў, Вера, Надзея», прысвечаны канцэптуальнаму аналізу творчасьці Ст. Тамары.

Адкрыцьцё выставы было прызначана на 30-га верасьня — дзень Сьвятой Сафіі і яе дачок Любові, Веры, Надзеі. Самыя буйныя й вядомыя фірмы на Беларусі, такія, як "DAINOVA", "RONAS". "PUSHE", «Экспасэрвіз», «ИНТЕРКОНТИНЕНТАЛЬ — СКВ», «БЕЛМЕД», "VESNA", прадстаўніцтва ў РБ, «ТПЦ ВЛАД» далі згоду прафундаваць урачыстае адкрыцьцё-банкет.

Дызайн эмблэмаў аздабленьне выставачнай залі належыла вядомаму мастаку-дызайнеру Андрэю Тумасу. Сваёю творчасьцю сп. А. Тумас прарэкламаваў кожнага з фундатараў гэтае ўрачыстасьці.

За гадзіну да адкрыцьця выставы, на галярэі сярод твораў мастачкі пачалася прэс-канферэнцыя, на якую сп. Сяргей Крыштаповіч запрасіў акрэдатаваных журналістаў на Беларусі і карэспандэнтаў усіх цэнтральных газэтаў.



*На прэсавай канфэрэнцыі*

У часе прэс-канферэнцыі, якую вёў сябра і дарадца Сяргея, Уладзімер Палупанаў, які прыклаў шмат намаганьняў дзеля здзяйсьненьня выставы, і сп. Аўген Калубовіч, мастачка Ст. Тамара адказала на шэраг пытаньняў, зьвязаных зь яе творчасьцю.

Запрошаныя госьці пачалі зьбірацца задоўга да адкрыцьця выставы. І што асабліва ўсьцешыла сп-ню Тамару, было шмат студэнцкай моладзі зь Беларускай Мастацкай Акадэміі, Менскай мастацкай вучэльні ды й дзетак, якія толькі пачынаюць свой шлях у мастацтве.

За поўгадзіны да адкрыцьця пачаў сьпяваць шырока вядомы як на Беларусі, так і па-за яе межамі, дзіцячы хор дзяўчынак Палаца «Юнацтва» пад кіраўніцтвам Віктара Масленьнікава. У сакавіку 1995 году гэты хор будзе гастраляваць у Амэрыцы і яго змогуць паслухаць і нашыя суайчыньнікі.

Настрой стаў яшчэ больш сьвяточным, калі афіцыянты з эмблемамі фірмаў – фундатараў гэтае выставы пачалі разносіць і частаваць гасьцей шампанскім.

Пры уваходзе ў залю раздаваліся каталёгі ды керамічныя мэдалі, прысьвечаныя выставе й выробленыя ў Менску керамічнай майстэрняй Уладзімера Крыштаповіча — малодшага брата Сяргея й Алеся Крыштаповіча, які жывучы ў Саўт Рывэры, у Амэрыцы, каардынаваў пытаньні, зьвязаныя з выставай. Варта тут зазначыць, што сямейны ўдзел прынялі й браты Палупанавы. Старэйшы брат Уладзімер Палупанаў быў у арганізацыйным камітэце па арганізацыі выставы, а малодшы Станіслаў Палупанаў, разам з выдатнейшай перакладчыцай, доктарам філалагічных навук Ірынай Сцяпанавай, якая дарэчы зараз стажыруецца ў Нью-Ёрку па лініі Фонду Сораса, і Алесем Поліўцавым зрабілі добры пераклад каталёгу.

А гадзіне 3-яй па-паўдні адчынілася выстава, на якой выступілі дырэктар Нацыянальнага Мастацкага Музэю сп. Юрась Карачун, дырэктар Амэрыканскага культурна-інфармацыйнага Цэнтру сп. Конрад Тэрнер, ад Фонду Сораса ўзяў слова доктар філасофскіх навук Алесь Анціпенка, былы Пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ААН сп. Генадзь Бураўкін, Міністр культуры РБ сп. Анатоль Бутэвіч, доктар гістарычных навук, мастацтвазнаўца сп. Ала Нароўская. Ад Міністэрства Замежных Справаў выступіў сп. Уладзімер Палупанаў.

Рэпрэзэнтант Ст. Тамары — сп. Сяргей Крыштаповіч у сваёй прамове выказаў удзячнасьць усім сябрам, якія спрыялі зьдзяйсьненьню гэтага сьвята. Ён выказаў асабістую падзяку сп. Конраду Тэрнеру, Фонду Сораса і асабліва сп. Элізабэце Смэдлі, сп. Юрасю Карачуну, які прапанаваў самую прэстыжную залю пад выставу «Амэрыка — мая Амэрыка», былому міністру замежных справаў сп. Пятру Краўчанку, Згуртаваньню Беларусаў "Сьвету Бацькаўшчына", сп. Ганне Сурмач і ўсім, хто дапамог зрабіць цуд — выставу на самым высокім эўрапэйскім узроўні.

Бязьмежную ўдзячнасьць сп. Сяргей выказаў беларускім фірмам-фундаратам, блізкім сябром-супрацоўнікам Уладзімеру Палупанаву, мастаку-дэзайнэру Андрэю Тумасу ды сваёй чароўнай жонцы Але — вернаму сябру, якая на працягу году аддана працавала зь ім над выставай.

Па заканчэньню ўрачыстай часткі сп. Юрась Карачун даў слова самой мастачцы Ст. Тамары, якая выказала ўдзячнасьць усім суродзічам, усёй Беларусі, ды й тым фірмам, якія празь яе выставу так ушанавалі мастацтва.

...Тысячы й тысячы наведвальнікаў на працягу месяца змаглі пазнаёміцца з выставай Ст. Тамары, зь яе Амэрыкай — другой прыдбанай Бацькаўшчынай.

Прайшло ўжо колькі тыдняў па закрыцьці выставы «Амэрыка — мая Амэрыка», а ў друку зьяўляюцца ўсё новыя й новыя артыкулы пра фантастычнае адкрыцьцё, творчасьць мастачкі і пра пэрспэктывы разьвіцьця беларускае культуры.

**Эва Станкевіч**

---

Прыхаджане й Царкоўная ўправа Прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл, Нью -Ёрк,
управа Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня ў Нью-Ёрку,
сябры й знаёмыя вітаюць с 75-і годзьдзем

**КАСТУСЯ МЕРЛЯКА**

даўгадовага старшыню Царкоўнай управы, управы БАА,
актыўнага беларускага дзеяча на эміграцыі
ды жадаюць яму здароўя й посьпехаў
у арганізацыйным і асабістым жыцьці.
*СТО ГОД!*

## СУРОДЗІЧЫ БЕЛАРУСЫ

«У нас ёсьць нямала велічных помнікаў ахвярам нямецкага фашызму... Але нішто яшчэ у нас не напамінае пакаленьням аб ахвярах сталіншчыны. Тое няправільна й недаравальна! Мы павінны памятаць аб іх — не гэроях, а бязьвінных ахвярах тырана — спрацаваных рабочых, галодных калгасьніках першых народных інтэлігэнтах, мужчынах і жанчынах, — якія з куляю ў патыліцы кlаліся ў самымі-ж выкапаныя ямы, вымаўляючы не праклён, не пратэст, а адзінае марнае слова 'Завошта?'» — Васіль Быкаў.

Хто чытаў кнігу «КУРАПАТЫ», у каго ў сям'і ёсьць ахвяры сталіншчыны, у каго ў грудзях б'ецца сьведамае беларускае сэрца, той добра зразумее нас, групу беларусаў, якія вырашылі, не «велічным помнікам», а мэмарыяльнай дошкай ушанаваць памяць нявінных ахвяр сталіншчыны й сказаць сьвету пра злачынства дакананае над Беларускім Народам.

Мэмарыяльная дошка памяці ахвяраў сталіншчыны мае быць узьнятая на вялікім валуне, што знаходзіцца ла беларускага памятнага Крыжа ў прошчы паўночна-амэрыканскіх пакутнікаў у Мідлянд, Канада. Ужо былі зробленыя патрэбныя захады й дазвол на гэта ў дырэкцыі прошчы атрыманы.

На мэталёвай, з бронзы, памятнай дошчы мае быць напіс па-ангельску й па-беларуску. Калі-б хацелі мы на дошцы даць болей інфармацыі пра сталінскія злачынствы, патрэбна была-б большая дошка, патрэбна было-б болей на яе грошай. Мэмар'ялная дошка на нашым Крыжы шэсьць год таму назад каштавала 1,600 даляраў. Цяпер будзе болей каштаваць, а калі хацелі-бы зрабіць большую, трэба лічыць на 3,000 даляраў. Вось гэтыя тры тысячы, або на мешую — дзьве тысячы, нам трэба, з вашай дапамогай Суродзічы, сабраць, каб зьдзейсьніць нашую задуму.

Пра гітлероўскія злачынствы, пра Аўшвіцы сьвет паінфармаваны. А хто будзе інфармаваць пра Курапаты — сымбаль генацыду Беларускага Народу!?

Хто, калі ня мы?

Ахвяры й заўвагі просім слаць на адрас ККББ, 54 Mary St. Barrie, Ont. Canada L4NITI, выпісваючы чэкі на "KURAPATY".

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!** за АРГАНІЗАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ
Др. Р. Жук-Грышкевіч, Старшыня ККБК

# ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ

СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ

*Абрамчык Анна й Мікола*
*Азарка Марыя, Янка й Ірэна*
*Азарка Нона, Юрка, Хрыстофор і Марк*
*Акула Кастусь*
*Андрусышын Юля, Павал, Юрка й Данчык*
*а. Андрэюк Васіль, матушка Вольга, дзеці Эля, Таіса й Даніла*
*Арцюх Лёля й Язэп*
*Бартуль Вера, Францішк зь сям'ёй*
*Бельмач Лена, Володзя, Янка й Пятро*
*Ганько Марыя й Мікола*
*Грэбень Мікола з сям'ёй*
*Гутарчык Літвіна*
*Даніловіч Аляксандра й Браніслаў*
*Дубяга Ала, Віктар, Сьцяпан, Каця й Лана*
*Дубяга Жэня, Алег, Юліян й Тамаш*
*Дубяга Мальвіна, Генадзь, Таіса і Генадзь малодшы*
*Жызьнеўскія Анна й Нікодэм зь сям'ёй*
*Заморская Вера, Таня й Ніна*
*Запруднік Янка й Вера*
*Кавалёў Клава й Лявон зь сям'ёй*
*Кажан Люба, Віталь, Маргарэта й Юля зь сям'ёй*
*Калоша Кастусь*
*Кананчук Тацьцяна й Андрэй*
*Каранеўскія Гэля, Міхась, Ванда, Ядзя, Караліна, Дануся й Міхась малодшы*
*Каханоўская Іна*
*Каханоўская Яніна*
*Кіпель Зора й Вітаўт*
*Кіпель Алеся*
*Кіпель Лёрэйн і Юрка зь сям'ёй*
*Корчык Люба й Юрка*
*Кулеш Павал зь сям'ёй, Дзідзя, Сьцяпан, Адам Гурыны*
*Кушаль Натальля*
*Лашук Аляксандар*
*Літвіненка Янка*
*Лукашэвіч Оля, Віктар, Коля й Стывэн*
*Махнач Ванда й Міхась*
*Машанскі Уладзімір (Валодзя)*
*Мельяновіч Далорэс і Васіль*
*Мерляк Ганна й Кастусь*
*Міхалюк Лёля й Янка*
*Мурог Сузана й Лявон зь сям'ёй*
*Непейн Надзя й Аляксандар*
*Норык Кінуся Лёня й дзеці*
*Орса-Романа Алла й Францішк, Павал і Коля*
*Пашкевіч Валянтына й Міхал зь сям'ёй*
*Прускі Вера й Мікола зь сям'ёй*
*Ракуць Ліда й Валодзя*
*Рамук Вера й Вітаўт зь сям'ёй*
*Русак Галіна й Васіль зь сям'ёй*
*Сапежынскія Алена, Якуб, Мацей, Мікалай і Юстын*
*Сільвановіч Ніна, Аляксандар і Андрэй*
*Стагановіч Марыя й Лявон*
*Стагановіч Тамара й Аляксандар Кольба*
*Станкевіч Раіса*
*Стрэчань Андрэй зь сям'ёй*
*Субота Кацярына й Адоль*
*Сурвілла Івонка й Янка зь дзецьмі*
*Сяргіевіч Марыя й Васіль*
*Трыгубовіч Сяргей*
*Тулейка Вольга й Міхась*
*Тур Ліля, Віктар і Аляксандар Мікола*
*Ханенка Ліда, Янка й Янка малодшы*
*Ханяўка Марыя, дачка Рагнеда і ўнук Даніла*
*Шукелайць Антон*
*Чарнэцкая Аляксандра*
*Яновіч Валянтына й Янка*
*Яраховіч Оля, Астап, Андрэй і Даніла*

---

**ПРЭЗЫДЫЮМ І САКРАТАРЫЯТ РАДЫ БНР**
ВІТАЮЦЬ УСІХ СВАІХ СЯБРОЎ, ПРЫХІЛЬНІКАЎ
І ПРАЦАЎНІКОЎ НА БЕЛАРУСКАЙ НІВЕ
ДЫ ЖАДАЮЦЬ ІМ
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

---

**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА**
**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ**
*вітае сваіх сяброў і ўсё беларускае грамадзтва з*
**КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ Й НОВЫМ**
**1995 ГОДАМ!**

---

**БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА**

*шчыра вітае ўсіх сваіх вернікаў, усіх суродзічаў-беларусаў і прыяцеляў БАПЦ з Раством Хрыстовым і Новым 1995 годам. Няхай Усемагутны ахоўвае ўсіх нас Сваёй апекай і дазваляе нам спакойна маліцца ў нашых сьвятынях. Будзем-жа прасіць і надзеяцца на Ягоную ласку.*

*Няхай ласка Божая будзе з Вамі.*

*З даручэньня Першагіерарха БАПЦ*
*Мітрапаліта Мікалая*
**Архім. а. Карп Стар**

---

**ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ**
*вітае усіх сваіх сяброў і прыхільнікаў*
**З КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ Й НОВЫМ ГОДАМ**

---

**УПРАВА БАЗА, АДДЗЕЛ ЛЁС-АНДЖЭЛЕС**
жадае ўсім чытачом «Беларуса»
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**і**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ**

---

***ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ У АМЭРЫЦЫ***
*жадае сваім сябром і прыхільнікам*
***ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ***
***і***
***ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!***

---

***ФУНДАЦЫЯ ІМЯ ПЁТРЫ КРЭЧЭЎСКАГА***
***жадае ўсім чытачом «Беларуса»***
***ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І***
***ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ !***

---

**LUKJAN METAL PRODUCTS, Inc.**
P.O. Box 357
Industry Street
Conneaut, OH 44030

*Сям'я Лук'янчыкаў — Натальля, Анатоль і Лена — жадаюць сваім сябром і знаёмым вясёлых Калядаў і шчасьлівага Новага Году!*

---

**БЕЛАРУСКАЕ АБ'ЕДНАНЬНЕ**
**РЭСПУБЛІКІ КЫРГЫЗСТАН**
**у гор. Бішкек**
*вітае суродзічаў–беларусаў у Злучаных Штатах з*
**СЬВЯТАМ КАЛЯДАЎ**
*ды жадае шмат памыснасьці ў працы ў*
**НОВЫМ ГОДЗЕ**

*За Згуртаваньне, А.С. Шут*
*дырэктар*

---

***УПРАВА ПАРАФІІ ЖЫРОВІЦКАЙ БОЖАЙ МАЦІ БАПЦ***
**у Гайленд-Парку, Н.-Дж.**
*вітае ўсіх сваіх прыхаджанаў і прыяцеляў*
***З РАСТВОМ ХРЫСТОВЫМ***
*ды жадае добрага здароўя*
*й шмат шчасьця ў НОВЫМ ГОДЗЕ!*

---

**КАМІТЭТ АДДЗЕЛУ ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ**
**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ**
**Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*жадае ўсім сваім сябром на эміграцыі і беларусам на Бацькаўшчыне*
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА**
**НОВАГА 1995 ГОДУ**

---

**УПРАВА АДДЗЕЛУ БАЗА Ў НЬЮ-ДЖЭРЗІ**
жадае сваім сябром і прыхільнікам
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДНЫХ СЬВЯТАЎ**
**ДЫ ЎСЯКАЕ ПАМЫСНАСЬЦІ Ў НОВЫМ ГОДЗЕ!**

## BELARUSIAN REVIEW. Vol. 6. No.3. Fall 1994

Нумар вельмі багаты актуальным матр'ялам. У перадавіцы рэдактар Джоў Прайс разглядае пытаньне вяртаньня Беларусі ў Эўропу і ролю беларускай эміграцыі ў гэтым працэсе, піша пра беларуска-амэрыканскую дэлегацыю ў Дзяржаўны Дэпартамант. Былы амэрыканскі амбасадар у Беларусі Дэйвід Сўорц дзеліцца сваймі паглядамі на Беларусь і ейнае месца ў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропе. Вялікі матар'ял прысьвечаны новаму амэрыканскаму паслу ў Беларусі Кенэту Ялавіцу — біяграфічная даведка, выказваньні сп. Ялавіца ў Сэнаце ЗША, здымак з мамэнту складаньня прысягі ў Дзярждэпартаманце. Урывак з рапарту Міжнароднае Фундацыі Выбарчых Сыстэм знаёміць чытача з ацэнкай амэрыканскімі экспэртамі палажэньня ў Беларусі напярэдадні сёлетніх прэзыдэнцкіх выбараў. Пра амэрыканскую дапамогу Беларусі даведваемся з выпісу з дакумэнту Інфармацыйнага Агенцтва ЗША. У артыкуле Янкі Запрудніка гаворыцца пра культурную палітыку новага беларускага ўраду (даклад, прачытаны на сэмінары для амэрыканскага пасла ў Беларусь). Арт Турэвіч аналізуе новы кірунак у замежнай палітыцы Прэзыдэнта А. Лукашэнкі. Джоў Прайс, пад заг. «Ці йдзе да Ялты-2?», падае выказваньні заходніх назіральнікаў пра небясьпеку расейскага імпэрыялізму ў дачыненьні да суседзяў Расеі.

Іншыя матар'ялы нумару прысьвечаныя эканамічным праблемам Беларусі, справе дапамогі ахвярам Чарнобыля. Зьмешчаны таксама рэпартаж і дакумэнты 21-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Я. Арцюх піша пра наведаньне беларуска-амэрыканскай дэлегацыяй Дзяржаўнага Дэпартамэнту і праведзеныя там гутаркі. У рэпартажы Васіля Русака разказваецца пра беларускі ўдзел у міжнароднай выстаўцы ў Бостане.

Багаты ў гэтым нумары «БА» разьдзел бягучай бібліяграфіі ды выпісак з амэрыканскага друку пра Беларусь. Лісты ў рэдакцыю часапісу паказваюць, што «Беларускі Агляд» — унікальна вартасная крыніца інфармацыі пра Беларусь для ўсіх і асабліва для тых, хто не валодае беларускай мовай. А гэта значыць, што рэдактар гэтай вельмі патрэбнай і высакаякаснай публікацыі (якая мае таксама, як і газэта «Беларус», сваё менскае выданьне) заслугоўвае ня толькі ня ўдзячнасьць ад усіх чытачоў, але й на ўсякую дапамогу, бо вялізарная бальшыня працы, зьвязанае зь пісаньнем, рэдагаваньнем, трыманьнем кантактаў з дапішчыкамі, ды нават самое рассыланьне квартальніка, ляжыць на ягоных плячах.

# ВІТАЮЦЬ


УПРАВА АДДЗЕЛУ БАЗА
Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ
*шчыра вітае ўсіх сяброў і супрацоўнікаў з*
КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ
*ды жадае добрага здароўя й посьпехаў у*
НОВЫМ 1995 ГОДЗЕ


УПРАВА БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА
ГРАМАДЗКАГА ЦЭНТРУ «ПОЛАЦАК»
Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ
*жадае ўсім сваім сябром*
ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА
НОВАГА 1995 ГОДУ


КАМІТЭТ АДДЗЕЛУ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА
ЖАНОЧНАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ
Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ
*жадае ўсім сваім сяброўкам і*
*беларусам на Бацькаўшчыне*
ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА
НОВАГА 1995 ГОДУ


ПАРАХВІЯЛЬНАЯ РАДА З ПРЫЧТАМ
ЖЫРОВІЦКАЕ БОЖАЕ МАЦІ БАПЦ
Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ
*вітае ўсіх сваіх прыхаджанаў, прыяцеляў*
*і беларусаў на Бацькаўшчыне*
З РАСТВОМ ХРЫСТОВЫМ
*і жадае добрага здароўя, шмат шчасьця*
Ў НОВЫМ 1995 ГОДЗЕ

## РЭЛІГІЙНЫЯ ПЛЫНІ Й КНІГАВЫДАВЕЦТВА Ў XVI-м СТ.

У часапісе **Solanus** (New Series, vol. 8, 1994, p. 33-52), выданьні Славістычнае Школы Лёнданскага Ўнівэрсытэту, зьмешчаны артыкул а. Аляксандра Надсана пад заг. «Рэлігійныя плыні і кнігі ў Беларусі XVI-га стагодзьдзя». Тэма апрацаваная на першакрыніцах і навуковай літаратуры, дае добрае ўяўленьне пра росквіт беларускае культуры ў шаснаццатым стагодзьдзі.

Рэлігійнае жыцьцё тае далёкае пары мае беспасярэдняе дачыненьне і да нашага часу, калі беларуская мова пракладае сабе шлях да нармальнага існаваньня ўва ўсіх сфэрах жыцьця, у тым ліку і ў рэлігійнай сфэры. Тым, хто сёньня супрацівіцца ўводу беларускае мовы ў багаслужбы, варта ведаць пра выказваньне нашага вялікага асьветніка Францішка Скарыны, які ў 1525 годзе пісаў у прадмове да свайго віленскага выданьня «Апостала». «Апосталам-жа і веруючым у Хрыста дадзены быў дух сьвяты ўсімі мовамі, якія ёсьць пад сонцам, праўду Божую, слова выратаваньня і царства нябеснае абвяшчаць».

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Л. і С. Мурог | ам. дал. 100 |
| З. і В. Кіпелі | 100 |
| Л. Норык | 70 |
| Др. Я. Сажыч | 50 |
| І. і Я. Сурвіллы | 50 |
| Вера Артон | 50 |
| К. Акула | 50 |
| Пар. Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ ў Гайланд Парку, Н. Дж. | 50 |
| БАПЦ (Кансысторыя) | 50 |
| Управа Аддзел БАЗА ў Нью-Джэрзі | 50 |
| А. Шурак | 30 |
| В. Тур | 25 |
| Т. Кольба | 20 |
| Л. Стагановіч | 20 |
| М. Тулейка | 20 |
| В. Бельмач | 20 |
| М. Абрамчык | 20 |
| У. Машанскі | 20 |
| Я. Азарка | 20 |
| Ю. Азарка | 20 |
| Ю. Корчык | 20 |
| Я. Яновіч | 20 |
| Л. і К. Кавалёў | 20 |
| Д. і В. Мельяновіч | 20 |

*Прыслана непасрэдна ў рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| В. і Ф. Бартулі | 200 |
| Др. Ул. Набагез | 100 |
| В. Ракуць | 70 |
| Я. Каханоўская | 50 |
| Р. Станкевіч | 50 |
| К. і Я. Вініцкія | 50 |
| Н. і А. Жызьнеўскія | 50 |
| О. Арэхва | 25 |
| Р. Пікулік | 25 |
| Н. Арсеньнева | 20 |
| К. Мерляк | 20 |
| Ю. Андрусышына | 20 |
| В. і М. Махначы | 20 |
| А. Чарнэцкая | 20 |
| Ю. і Л. Арцюх | 20 |

**АХВЯРАВАНЬНІ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ СКАЎТАЎ**

| | |
|---|---|
| І. і Т. Аўдзей | ам. дал. 20 |
| М. Баяроўскі | 10 |
| С. Буткевіч | 10 |

**НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ**

| | |
|---|---|
| М. Баяроўскі | ам. дал. 30 |
| К. Акула | 50 |

*Ліста з Аўстраліі*

| | |
|---|---|
| П. Дарэўскі | аўстр. дал. 100 |
| М. Мароз | 50 |
| А.С. Мароз | 50 |
| М. Раецкі, малодшы | 50 |
| А. Бразоўскі | 50 |
| А. Ніжнік | 50 |
| Belarusan Association in W.A. | 50 |
| М. Кахановіч | 30 |
| Е. Дамяроўскі | 25 |
| В. Лашкевіч | 25 |
| М. Раецкі | 20 |

*Ліста з Бірмінгам, Англія*

| | |
|---|---|
| Ф. Верамейка | ам. дал. 44 |
| С. Буткевіч | 40 |
| М. Баяроўскі | 40 |
| Я. Міхальчык | 29 |
| У. Карніловіч | 29 |
| П. Грыгальчык | |

## ПАПРАЎКА

У папярэднім нумары «Беларуса» было памылкова пададзенае ахвяраваньне Н. і А. Жызьнеўскіх і В. і. В. Рамукоў як 100 ам. дал. Чытаць трэба — 200 ам. дал. Просім выбачэньня.

## «ПОСТ-ТАТАЛІТАРНАЕ ГРАМАДЗТВА: АСОБА І НАЦЫЯ»

Пад гэткім загалоўкам выйшаў з друку зборнік матар'ялаў міжнароднага кангрэсу ў абарону дэмакратыі і культуры, які адбыўся ў травені сёлета ў Беларусі. Арганізатарам кангрэсу быў беларускі ПЭН-цэнтар (старшыня – Рыгор Барадулін). У зборніку (285 ст.) зьмешчаныя 47 дакладаў, прачытаныя на кангрэсе, а таксама пастановы кангрэсу, дакумэнты і матар'ялы. Выданьне ілюстраване фатаграфіямі ўдзельнікаў. Даклады зьмешчаныя ў мове арыгіналу — па-беларуску або па-расейску.

Тэматычны дыяпазон кнігі вельмі шырокі. Тэмы актуальныя. Зборнік адкрываецца выступленьнем Васіля Быкава пад заг. «Звыклае царства абсурду» — унікліві аналіз сучаснага грамадзка-палітычнага стану на Беларусі. А вось загалоўкі некаторых іншых дакладаў, якія даволі дакладна перадаюць тэматычную разнастайнасьць кангрэсу: Рыгор Барадулін — «Асоба ўзбуйняе нацыю», Іван Макаловіч — «Под чиновничьим колпаком (о положении печати в Беларуси», Евген Сверстюк (Украіна) — «Цена свободы выбора», Ольга Помар (ЗША) — «Обзор-сравнение и анализ законов о печати США и Беларуси», Анатоль Вярцінскі – «Чалавек і нацыя — чые правы вышэй?», Вітаўт Кіпель«Пост-таталітарнае грамадзтва і беларуская дыяспара», Яцех Бохеньскі (Польшча) — «Человек – народ – демократия – литература», Валентин Оскоцкий (Расея) – «Мораль и политика», Адам Мальдзіс — «Талерантнасьць і дэмакратыя: ці заўсёды яны супадаюць?», Гартмутэ Трэппэр (Нямеччына) — «Культура, рынок і свобода творчества», Янка Запруднік — «Канцэпцыя грамадзянскай супольнасьці і няўрадавыя арганізаі ў ЗША», Вера Рыч — «Цэнзура ў мінулым ... Негалосная цэнзура — у цяперашнім ... Няясныя пэрспэктывы — у будучым», Вольга Іпатава — «Сындром 'ружовай' сьвядомасьці», Алег Лойка — «Ці абавязаны паэт быць грамадзянінам?», Уладзімер Арлоў — «Рэцыдывы фальсыфікацыі гісторыі Беларусі ў пэрыяд будаўніцтва незалежнай дзяржавы». І шмат іншых цікавых надзённых дакладаў.

Сярод дакумэнтаў кангрэсу знаходзім дэкляарцыю «Аб абароне свабоды слова і забесьпячэньні права на інфармацыю ў Беларусі», рэзалюцыю «Аб мове», заяву «Аб экалягічным становішчы ў Беларусі», пратакол аб прыняцьці ў сябры ПЭН-цэнтру В. Рыч, Я. Запрудніка і В. Кіпеля («У знак прызнаньня ў нялёгкай і высакароднай справе захаваньня Беларушчыны») і іншыя дакумэнты.

Зборнік «Пост-таталітарнае грамадзтва: асоба і нацыя» выдадзены незалежнай выдавецкай кампаніяй «Тэхналогія» тыражом 1500 экзэмпляраў. У ім зазначана «Беларускі ПЭН-цэнтр выносіць шчырую падзяку Фонду Сораса-Беларусь за фінансавую падтрымку Міжнароднага кангрэсу і гэтага выданьня».

## ПАДЗЯКА

З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі і іншыя прэсавыя матар'ялы, якія ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп.сп. Я. Сурвілла, Я. Жучка, В. Багдановіч, В. Трыгубовіч, Беларуская Амбасада ў Вашынгтоне, Б. Рагуля, М. Белямук, Ч. Найдзюк.